*Пра вердыкт, вынесены судом экс-гендырэктару холдынга «БелОМА» Вячаславу Бурскаму, чытайце на 6-й стар.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою.*
**Якуб КОЛАС**

**№ 92 (4447)**

22 лістапада 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПРАВААБАРОНЦЫ
**ЗА СВАБОДНЫЯ ВЫБАРЫ**

*(Матэрыялы спецпраекта – на 3-4–й стар.)*

**УВАГА!**

*Каб атрымліваць «Народную Волю» з 1 снежня, аформіць падпіску неабходна да 27 лістапада. Зрабіць гэта можна праз інтэрнэт, у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку».*

**ПОЎНЫМ ХОДАМ ІДЗЕ ПАДПІСКА І НА ПЕРШУЮ ПАЛОВУ 2020 ГОДА.**

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**

**ПРИВЕТ ИЗ КИЕВА**

## «У нас хватит своих пограничников»

Украине не нужна помощь белорусских пограничников для восстановления контроля над границей с Россией на Донбассе, заявил Владимир Зеленский на брифинге в городе Очакове, куда прибыл для встречи возвращенных Россией захваченных в Керченском проливе украинских кораблей, сообщил «Интерфакс-Украина».

*«Александр Григорьевич Лукашенко <…> озвучивал, что если вам потом будет нужна помощь по поводу количества пограничников на границе Украины с Россией, когда вам нужно будет брать под контроль границу, то обращайтесь, мы* (Беларусь. – **Прим. ред.**) *обязательно поможем. Я его поблагодарил, но я думаю, что мы же независимая страна и у нас хватит своих пограничников»,* – сказал Зеленский.

Белорусский президент, как известно, неоднократно предлагал помощь Украине для восстановления мира на Донбассе. Так, в интервью украинским СМИ 26 сентября Александр Лукашенко заявил, что при согласии сторон готов ввести миротворцев на Донбасс и даже взять под контроль участок украинско-российской границы.

**УСМЕШКА МАСТАКА**

## З малатком за… заробкам

Як паведаміла сталічная міліцыя, вечарам дырэктар мінскай фірмы выйшаў з офіса, падышоў да сваёй машыны, сеў у яе, але ад'ехаць не паспеў. У машыну падсеў ягоны працаўнік, яшчэ адзін мужчына чакаў звонку.

Работнік патрабаваў у дырэктара заробак, які той своечасова не выдаў, а калі мужчына зразумеў, што пераконванне не дапамагае, дастаў малаток і стаў «выбіваць» свае грошы, наносячы ўдары малатком па каленях.

«Выніку рабочы дамогся. «Выбіў» з дырэктара 350 беларускіх рублёў і знік з саўдзельнікам. Абодвух знайшлі па гарачых слядах па месцы жыхарства», – паведамляе сталічная міліцыя.

**Калаж Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.**

—Я быў упэўнены, што камень – зброя пралетарыяту...

— Прагрэс не стаіць на месцы!

**ГУЧНАЯ СПРАВА**

# Што будзе з акумулятарным заводам у Брэсце?

*Пакуль прадпрыемства не працуе, але яго далейшы лёс – у тумане.*

Нагадаем, што будаўніцтва акумулятарнага завода ў Брэсце выклікала вялікі рэзананс сярод мясцовых жыхароў. Працўнікі будаўніцтва стварылі ініцыятыўную групу, білі ў званы і пісалі ва ўсе інстанцыі. Казалі, што прадпрыемства не адпавядае экалагічным нормам. Людзі выходзілі з пратэстамі на вуліцу, за што многіх штрафавалі, а ў дачыненні да некаторых нават узбуджалі крымінальныя справы, якія былі шыты белымі ніткамі.

Але ў выніку пасля такіх яркіх праяў народнай незадаволенасці мясцовыя ўлады вырашылі пераправерыць адпаведнасць завода экалагічным стандартам. Выказаліся з гэтай нагоды і высокія чыноўнікі. Напрыклад, у канцы жніўня намеснік міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Аляксандр Корбут** заявіў, што яго ведамства не дазволіць увод у эксплуатацыю акумулятарнага завода, калі там будуць парушаны экалагічныя нормы.

А ў верасні гэтага года сваё слова сказаў і Аляксандр Лукашэнка.

«*Я, вядома, на баку людзей,* – выказаўся ён. – *Тут з'явіліся ўжо і арыштаваныя, і затрыманыя, і крымінальныя справы, і іншае. На жаль, яны з'явіліся тады, калі ўся інфармацыя стала вядома прэзідэнту.*

*Калі я пераправерыў інфармацыю, то ўбачыў, што тут людзі, якія перажываюць за экалогію, сваё жыццё, жыццё дзяцей, у асноўным маюць рацыю. І я ўбачыў правапарушэнні – з боку і асобных дзяржаўных служачых, і асобных дзялкоў, якія паабяцалі пабудаваць у агульным патрэбны нам аб'ект».*

Крыху раней старшыня КДБ **Валерый Вакульчык** у кулуарах Міжнароднай канферэнцыі па барацьбе з тэрарызмам паведаміў журналістам, што разам з уладальнікам акумулятарнага завода Віктарам Лемяшэўскім затрыманы і шэраг асоб. У тым ліку – два чыноўнікі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Іх затрымалі па падазрэнні ў тым, што яны *«давалі хабар адказным асобам за вырашэнне тых ці іншых пытанняў, у тым ліку і тых, якія тычацца будаўніцтва акумулятарнага завода».*

Вакульчык дадаў таксама, што зараз у Генеральнай пракуратуры знаходзіцца шэраг спраў, звязаных з акумулятарным заводам у Брэсце. Пракуратура расследуе, у прыватнасці, справы, распачатыя КДБ па арт.арт. 430 (Атрыманне хабару) і 431 (Дача хабару) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Паведамлялася, што фігурантамі гэтых спраў сталі ўладальнік завода **Віктар Лемяшэўскі**, галоўны бухгалтар ТАА «Белинвестторг-Сплав» **Святлана Лемяшэўская**, былы дырэктар гэтай кампаніі **Сяргей Ахрэмчук**, а таксама намеснік дырэктара «Белинвестторг-Сплав» **Іван Пакіслюк**. Усе яны былі затрыманы, да іх прыменена мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту.

У прэс-службе Генеральнай пракуратуры «Народнай Волі» пацвердзілі, што справы па акумулятарным заводзе па-ранейшаму знаходзяцца ў іх ведамстве, хаця і не адказалі на пытанне, ці зменена мера стрымання фігурантам справы.

*«Заўчасна казаць на гэтую тэму, пакуль праводзіцца расследаванне і ідзе збор доказнай базы»,* – патлумачылі ў Генпракуратуры.

Учора працўнікі будаўніцтва прадпрыемства мелі шанц патрапіць на экскурсію па заводзе, але іх туды не пусцілі.

– Падчас апошняй сустрэчы са старшынёй Брэсцкага гарвыканкама Аляксандрам Рагачуком апошні заявіў, што ён гатовы арганізаваць экскурсію на акумулятарны завод, – кажа брэсцкі актывіст **Аляксандр Кабанаў**. – Мы падалі спіс з 10 чалавек, якія хацелі б пабываць на тэрыторыі прадпрыемства. У спіс уключылі эколагаў і спецыялістаў, якія маглі б на месцы ўсё паглядзець і даць сваю ацэнку.

Пазней даведаліся, што прапанаваныя намі людзі не змогуць патрапіць на завод, бо, маўляў, іх кандыдатуры не зацвердзіла кіраўніцтва прадпрыемства. Яны склалі свой спіс, але ў выніку не пайшоў ніхто.

**– Будучыня завода пакуль невядомая?**

– Той самы Аляксандр Рагачук казаў, што, паводле яго інфармацыі, як мінімум у бліжэйшыя паўгода пра адкрыццё прадпрыемства не можа ісці і размовы. Хаця я цудоўна разумею, што гэтыя пытанні будуць вырашацца дакладна не на ўзроўні старшыні гарвыканкама.

Дарэчы, зараз мы хочам ініцыяваць правядзенне грамадскай экспертызы праекта, але для гэтага завод павінен нам прадаставіць дакументы. У Міністэрстве прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя пацвердзілі, што мы маем такое права. Зрабілі на прадпрыемства запыт, але дакументы нам пакуль не даюць.

**– Што чуваць пра фігурантаў справы, якая расследуецца?**

– Наколькі мне вядома, усе яны па-ранейшаму застаюцца пад вартай.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**ЧУЛІ?**

## Ігар БАРЫСАЎ: «Мы заплацілі больш за чатыры тысячы долараў…»

*Арганізатары акцыі на Дзень Волі ў Кіеўскім скверы, якая адбылася 24 сакавіка гэтага года, разлічыліся з дзяржавай. Яны кампенсавалі ўсе судовыя выдаткі і аплацілі работу міліцыі. Агулам палітыкі **Ігар Барысаў, Мікалай Казлоў, Вольга Кавалькова** і **Юрый Губарэвіч** заплацілі 8413 беларускіх рублёў.*

«Кожная арганізацыя ўнесла сваю прапарцыянальную частку, – *распавёў старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада)* **Ігар Барысаў**. – Цягнуць ужо не было куды. Інакш сёння працай бы пачалі займацца судовыя выканаўцы, а гэта значыць, што давялося б заплаціць яшчэ 10 працэнтаў ад сумы спагнання. Каму патрэбны сюжэты і карцінкі, як ломяцца ў твае дзверы з жаданнем апісаць усю маёмасць?

На жаль, мы выкарысталі ўсе магчымасці, каб аспрэчыць няякасныя паслугі міліцыі і выкраданне нашых актывістаў падчас мітынгу-канцэрта.

Мы прыцягвалі ўвагу да таго, што паслугі міліцыі ўжо аплачаны за кошт падаткаплацельшчыкаў, аднак гэта ўсё аказалася марнай справай.

Нас аштрафавалі толькі за тое, што законам прадугледжана аплата паслуг міліцыі цягам 10 дзён і аспрэчыць дамовы няма ніякай магчымасці.

У IT-краіне міліцыя не парупілася, каб аплату можна было зрабіць праз АРІП, бо не было такога прызначэння плацяжу ў сістэме, што каштавала нам дадатковых 160 рублёў, якія пайшлі банку.

Дзякуй усім, хто быў салідарны з нашай пазіцыяй і дапамагаў нам! Сустрэнемся на БНР-102! Будзьце спакойны – усе сабраныя сродкі пойдуць на арганізацыю новага свята, а не на пакрыццё старых пазык.

**Вера ВІР.**

**ФАКТ И КОММЕНТАРИЙ**

# Расходы бюджета на выплаты пенсий снова вырастут

*Почему так происходит, ведь с 2017 года число получателей пенсий в Беларуси уменьшается? «Народная Воля» попыталась в этом разобраться.*

Как известно, на этой неделе депутаты Палаты представителей приняли в первом чтении законопроект о бюджете на 2020 год. Представляя законопроект в парламенте, заместитель министра финансов **Юрий Селиверстов** отметил, что главная особенность государственного бюджета на 2020 год – значительное увеличение расходов на зарплаты и социальную защиту. Так, дополнительно по сравнению с 2019 годом на зарплаты бюджетникам будет выделено 1,8 млрд рублей, что, по мнению замминистра, должно позволить достичь в бюджетной сфере зарплат уровня 80% от средней зарплаты в экономике. Также почти на треть планируется увеличить в 2020 году расходы на социальную защиту населения. В Фонд соцзащиты из бюджета может быть направлено около 2 млрд рублей. Причем около 777 млн рублей пойдут на обеспечение сбалансированности бюджета для сохранения пенсии на уровне не менее 40% от размера средней зарплаты. Этого показателя, к слову, считающегося минимальной нормой социального обеспечения пенсионера, белорусским властям не удается достичь на протяжении последних нескольких лет.

Теперь давайте посмотрим, как росли государственные дотации на выплаты пенсий.

**2016 год** – из бюджета на пенсионное обеспечение выделено более 581 миллиона рублей,

**2017** – 765,7 миллиона,

**2018** – свыше 888 миллионов,

**2019** – 1 миллиард 459 миллионов 569 тысяч 877 рублей,

**2020** – запланировано направить около 2 млрд рублей.

Теперь другая статистика.

Повышать пенсионный возраст в стране начали в 2017 году, и Белстат сразу же зафиксировал, насколько сократилось в Беларуси число получателей трудовых пенсий:

**2016 год** – 2 миллиона 619 тысяч человек,

**2017** – 2 миллиона 593 тысячи,

**2018** – 2 миллиона 561 тысяча.

По логике, в 2020 году эта цифра должна еще несколько уменьшиться. Но если пенсии надо платить меньшему количеству людей, почему тогда и в 2020 году по сравнению с 2019-м запланировано увеличить бюджетные дотации на пенсионные пособия? А если сравнить с 2017 годом, то в новом году на пенсионное обеспечение будет потрачено в 2,6 раза больше бюджетных средств.

*«Думаю, тому, что в следующем году на соцзащиту планируют выделить из бюджета рекордные 2 млрд рублей, есть несколько причин,* – комментирует старший научный сотрудник Белорусского экономического исследовательско-образовательного центра (BEROC) **Лев Львовский.** – *Наверняка это связано и с тем, что в 2020 году пройдут президентские выборы и правительству надо наконец-то довести размер средних трудовых пенсий до уровня 40% от средней зарплаты. Но главная причина таких дотаций в том, что без них действующая пенсионная система уже не способна функционировать. В будущем дефицит Фонда соцзащиты будет только расти».*

Эксперт обращает внимание на такой факт: хоть увеличение пенсионного возраста несколько сократило число получателей пенсий, это никак не могло повлиять на то, что в Беларуси уменьшается и количество трудоспособных граждан, а следовательно, уменьшаются и поступления в Фонд соцзащиты. В 2010 году в Беларуси на 1000 человек трудоспособного возраста приходилось 366 пенсионеров, в 2016-м – 429, в 2018-м – 438. По прогнозам, в 2020 году доля пенсионеров в общей численности населения страны достигнет 26,4%, а в 2030-м их количество может превысить половину от числа трудоспособных белорусов.

*(Окончание на 2-й стр.)*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Знак унижения

Как не раз заявляли официальные лица, 8 декабря два президента, Беларуси и России, собираются подписать пакет документов об углублении интеграции. Парафировали его премьер-министры обеих стран еще в сентябре, но, вопреки публичным обещаниям, данным главой белорусского правительства Сергеем Румасом, опубликованы они не были. Объяснение этому было такое: мол, работа все равно продолжается, так что же раньше времени народ беспокоить? Вот закончим, тогда опубликуем.

С сегодняшнего дня, когда вышел очередной номер «Народной Воли», до встречи двух президентов останется всего каких-то две с половиной недели. Не хочется верить в то, что белорусские правительственные эксперты работают настолько плохо, что за семнадцать дней до подписания стратегически важного документа президент не знает, что он будет подписывать. А если знает и проект на самом деле готов, то почему народу – который, по Конституции, является сувереном нашей страны и единственным источником власти в ней, – не говорят о том, что именно будет подписано? Почему глава правительства ведет себя, точно мелкий нашкодивший лгунишка-школьник (поверьте, я не хочу оскорбить школьников и вовсе не призываю отвинчивать Сергею Румасу голову), и не выполняет публично данного обещания?

У нас много о чем спрашивали, причем рефери при подсчете голосов выступала в большинстве случаев та самая Лидия Ермошина, которой, боюсь, не верит добрая половина вполне толерантных белорусов.

Например, у нас спрашивали, хотим ли мы знать, из каких источников финансируются органы власти. Такой вопрос был вынесен на референдум 1996 года. Представляете, 65,85% голосов было отдано за то, чтобы власть финансировалась не открыто и не обязательно из бюджета.

Нам обещали, что нам покажут видеозапись так называемой «эвакуации» оппозиционных депутатов из зала заседаний во время объявленной ими голодовки накануне референдума 1995 года. Пленка с записью исчезла в неизвестном направлении. Тогда кто-то из должностных лиц (кажется, господин Синицын) утверждал, что она была передана небезызвестному Владимиру Заметалину. Заметалина уже на свете нет, но пленка, похоже, так и не нашлась. Или просто решили нам ее не показывать? Но тогда – зачем обещали?

Не буду напоминать о многочисленных арсеналах оружия, якобы обнаруженных то в штабах оппозиционных кандидатов в президенты 2010 года, то у фигурантов так называемого «дела патриотов» 2017-го. Всех выпустили, дело вроде бы закрыли. Но арсеналы оружия нам так и не показали. Но ведь народ имеет право знать, откуда именно исходит опасность для него!

Сейчас ситуация хуже. Она касается не отдельных лиц, пусть даже и обладавших мандатами народных избранников, и не группы молодых и не слишком молодых активистов, которым приписывались (иначе – за что задерживать-то?) незаконное хранение оружия и подготовка массовых беспорядков. Она касается будущего страны. И тот факт, что слова премьер-министра повисли в воздухе, заставляет подозревать, что дело вообще неладно. Что действительно есть нечто, что скрывают.

Отсюда и проистекает распространение того, что власть называет «непроверенной» и «недостоверной» информацией. Например, никем не подписанных бумажек, разбросанных через телеграм-каналы популярными, как принято говорить, блогерами. Власть утверждает, что таким образом некто пытается манипулировать общественным мнением.

Но если вы не хотите, чтобы нами манипулировали блогеры, опубликуйте проекты сами. Чтобы народ, слугами которого вы якобы являетесь, видел, кто именно и как именно ему служит.

Однако в ответ мы слышим:

– Придет время – опубликуем!

Эта цитата, замечу, не из выступлений и интервью того же Румаса. Сергей Николаевич от столь резких высказываний воздерживается.

Но хотелось бы при этом знать, когда именно придет это желанное времечко и нам скажут, **что** именно 8 декабря 2019 года собираются подписать президенты. Неужели оно придет 9 декабря?

Но если оно придет только 9 декабря – то есть уже после подписания, – не будет ли это знаком публичного унижения суверена нашей страны и единственного источника власти, которым и является народ? Потому что его просто не сочтут достойным вовремя узнать, что день грядущий ему готовит.

– Ничего, – скажут народу. – Подписали? Подписали. Теперь читай.

Только смысла в том чтении уже не будет. Потому что ничего не изменишь. А если придется менять, то чего это будет стоить нации?

ЧУЛІ?

## Патрыярх Кірыл наведае Беларусь

Чакаецца, што ён возьме ўдзел у святкаванні 550-годдзя здабыцця цудатворнай Жыровіцкай іконы Божай Маці і 500-годдзя з дня заснавання Свята-Успенскага Жыровіцкага мужчынскага манастыра.

*«2020 год у беларускім экзархаце будзе юбілейны,* – цытуе БЕЛТА прарэктара па навуковай рабоце Мінскіх духоўных акадэміі і семінарыі **Аляксандра Слесарава**. – *Асноўныя імпрэзы адбудуцца 20 мая на тэрыторыі манастыра, куды запланаваны прыезд прадстаяцеля Рускай праваслаўнай царквы, Святейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла. Акрамя асноўных урачыстасцяў, святочнага набажэнства на тэрыторыі манастыра адбудзецца пасяджэнне Святога сінода РПЦ».*

ТЫМ ЧАСАМ

## Адкрытае пытанне

Ужо не першы год уздымаецца пытанне візіту ў Беларусь Папы Рымскага. Католікі – другая па колькасці вернікаў канфесія ў Беларусі. У 2016 годзе **Аляксандр Лукашэнка** сустрэўся з **Папам Рымскім Францішкам** у Ватыкане і запрасіў пантыфіка здзейсніць візіт у Беларусь.

Аднак дагэтуль такі візіт не адбыўся.

Летась, калі Папа Рымскі наведваў Літву, куды на сустрэчу з пантыфікам паехалі тысячы беларусаў, кіраўнік Беларускага касцёла мітрапаліт **Тадэвуш Кандрусевіч** казаў: *«Мы хацелі б бачыць Папу ў сябе, мы молімся, але гэта не наша кампетэнцыя».* Таксама арцыбіскуп агучваў і ўмовы візіту пантыфіка: адсутнасць пярэчанняў з боку праваслаўнай царквы як галоўнай канфесіі Беларусі.

**Іван ШЫРОКІ.**

ФАКТ И КОММЕНТАРИЙ

# Расходы бюджета на выплаты пенсий снова вырастут

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Следовательно, отмечает Лев Львовский, убытков пенсионная система будет приносить все больше, и чтобы их компенсировать, придется либо снова отодвигать пенсионный возраст, либо повышать налоги, из которых и складывается госбюджет.

*«Очевидно, что повышение пенсионного возраста – это не долгосрочное решение пенсионной проблемы,* – подчеркивает эксперт. – *Необходимо изменение самой пенсионной системы, чтобы она не зависела от демографической нагрузки. Ведь, по сути, мы сейчас отдаем в ФСЗН около 35 процентов своих доходов. Если бы каждый человек сам откладывал эти 35 процентов, то, выйдя на пенсию, имел бы достаточное количество денег. А как перейти к накопительным счетам? Ведь есть те, кто уже не успеет накопить себе на пенсию. Но это не значит, что переходить на такую пенсионную систему не надо. Как говорят финансисты, надо фиксировать убытки, фиксировать потери, и тем, кто не успеет накопить пенсии самостоятельно, выплачивать их из других источников. А новое поколение трудоспособных граждан следует переводить на накопительные счета.*

*И второй момент – демография. В первую очередь нам надо привлекать в Беларусь мигрантов, это самый легкий способ увеличения населения – и качественно, и количественно. Вопрос в том, откуда приглашать экономически активных граждан и какие механизмы для этого нужны. Пока правительство не предпринимает никаких шагов в этом направлении… И, наконец, нужно осовременивать подход к стимулированию рождаемости в стране. У нас сейчас патриархальный подход, который работает на сельское и малообеспеченное население: мы хотим давать деньги женщинам, чтобы они рожали, а нужно думать о высокообразованных женщинах и находить инструменты, которые позволили бы максимально облегчить материнство в плане трудозатрат и времязатрат. Это развитие сетей детсадов, ясель, внесение в законодательство норм, чтобы было легче совмещать работу с материнством».*

Лев Львовский считает, что сейчас у Беларуси есть неплохой шанс провести действенную пенсионную реформу. *«Но чем дольше власти будут ее оттягивать, тем больше будет усложняться ситуация с пенсионным обеспечением»,* – подытоживает эксперт.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

Сергей КАЛЯКИН:

# «Я считаю, мы должны добиваться возбуждения уголовных дел…»

*Председатель Белорусской партии левых «Справедливый мир», один из координаторов кампании «За справедливые выборы – 2019» Сергей Калякин резко выступил на заседании экспертного клуба, посвященного итогам парламентской кампании. Он не понимает, почему прокуратура отказывается возбуждать уголовные дела за фальсификацию результатов выборов на основании свидетельских показаний.*



*«Брат известного бизнесмена* **Александра Шакутина** *сидит в следственном изоляторе только на основании показаний свидетелей, – говорит Калякин. – Сейчас в суде рассматривают дело бывшей чиновницы Минздрава* **Людмилы Реутской**, *в основе которого тоже только показания свидетелей, причем измененные. И люди реально сидят в тюрьме! Чем эти уголовные дела отличаются от преступлений против конституционного строя? Фальсификация выборов – еще более опасное преступление, чем взятки! Это преступление против государства!»*

– На мой взгляд, сегодня бессмысленно анализировать и вести дискуссию по вопросам выборов, – *высказывал свое мнение Сергей Калякин.* – Вопрос нужно ставить совершенно иначе. Я считаю, в период с 12 по 17 ноября в стране организованная группа лиц совершила серию преступлений, причем массовых. Есть конкретные факты. Я говорю это в основном для спецслужб, потому что до них достучаться невозможно: они просто не отвечают на жалобы конкретных людей, всё спускают в избирательные комиссии, идет круговая порука.

Мы наблюдали за ходом парламентской кампании – 50 участков по всей стране были под нашим контролем все пять дней досрочного голосования и в день основного голосования. Мы сделали большой отчет, основанный на конкретных фактах.

На более чем трети наблюдаемых участков было зафиксировано завышение избирательными комиссиями количества граждан, проголосовавших досрочно. Причем на ряде участков – многократно.

В основной день голосования наблюдатели зафиксировали завышение избирательными комиссиями количества проголосовавших более чем на половине избирательных участков, которые наблюдались непрерывно. В период с 12 по 17 ноября, по данным наблюдателей, проголосовало менее 50 процентов избирателей…

Процедура подведения итогов выборов на избирательных участках была непрозрачной, практически на всех участках при подсчете голосов наблюдатели не имели возможности видеть, как получается результат.

Наблюдатель из компании «Право выбора» фактически схватил за руку девушку, которая вбросила пачку бюллетеней в урну для голосования. Есть свидетели, есть видео, на котором видны стопки аккуратно сложенных бюллетеней. В нормальном государстве возбудили бы уголовное дело и провели разбирательство. А у нас председатель Центризбиркома говорит, что наказать нужно наблюдателя!..

У меня есть практически готовое уголовное дело по одному из округов, которое содержит рабочую тетрадь наблюдателя, где по дням отмечено все, что происходило на участке. И есть жалобы, которые каждый день направлялись в прокуратуру и комиссии о том, что приписывали явку. И ведь как приписывали! По 220 человек в день проголосовавших досрочно! Комиссия работает 420 минут в день. Значит, если на участок в день приходит 220 человек и на каждого избирателя уходит в среднем меньше двух минут, очередь должна быть на участке!

У меня таких папок с конкретными примерами вопиющих нарушений – больше 50! Я считаю, очень важно наблюдателям довести это дело до конца. Надо устраивать пресс-конференции, приглашать туда представителей прокуратуры и спрашивать, почему они не возбуждают дела за фальсификации. Ведь есть факты! Сегодня людям дают по 11 лет тюрьмы, и все обвинения строятся исключительно на свидетельских показаниях. Почему здесь другой подход?

Лет восемь назад я с подобными фактами пришел на прием к одному высокопоставленному сотруднику Генпрокуратуры и сказал: не хотите возбуждать уголовные дела за фальсификацию выборов, возбудите дело в отношении меня – за клевету! Он сказал: «Сергей Иванович, тогда надо будет расследовать всю цепочку, приглашать людей с участков, поднимать документы…»

Я полагаю, мы должны добиваться возбуждения уголовных дел. И считаю, мы не должны опускать руки, это не безнадежное дело. Плохо, если мы сейчас поговорим об этом, а завтра обо всем забудем.

Многие наблюдатели после этих парламентских выборов испытывают шок. И говорят примерно так: я, конечно, читал, что у нас выборов нет, но что такой беспредел – не представлял. Деморализовать людей через беспредел – это как раз одна из задач власти, создать условия, чтобы уехали из страны наиболее активные граждане. Наша задача – сопротивляться до последнего.

Одиночки, которые будут бросаться на амбразуру, ничего не сделают. Пока, к сожалению, общество лишь со стороны наблюдает за всем, что происходит. И не видит смысла не только в выборах, но и в политической работе. Это большой вызов для представителей политических партий…

Я считаю, активное участие оппозиции в выборах себя полностью оправдало. Благодаря тому, что мы участвовали, мы сегодня имеем конкретные примеры фальсификаций. И благодаря независимым кандидатам в депутаты и наблюдателям власти не удалось продать фальшивые выборы в Европу, на что они сильно надеялись и о чем говорили многие аналитики до выборов.

Кстати, таких жестких выводов международных наблюдателей я не читал за последние 20 лет. И если уж дипломаты так жестко высказались, то, значит, никто не будет иметь дела с этой Палатой представителей…

**Марина КОКТЫШ.**

НОУ-ХАУ

## Не ўзяў адпачынак своечасова – атрымаў папярэджанне

Адным з ноу-хау гэтай выбарчай кампаніі стала вынясенне папярэджанняў за тое, што кандыдаты несвоечасова сыходзілі ў адпачынак. Закон патрабуе, каб пасля рэгістрацыі кандыдаты сыходзілі ў адпачынак, аднак не ўсе маглі гэта зрабіць у сам дзень рэгістрацыі. Зразумела, па аб'ектыўных прычынах.

Так, папярэджанне за несвоечасова прынесеную даведку (ды яшчэ без пячаткі) аб сыходзе ў адпачынак атрымаў усё той жа Уладзімір Мароз. А актывіст «Еўрапейскай Беларусі» з Бабруйска **Арсеній Чыгір** атрымаў папярэджанне за тое, што ўзяў адпачынак на два дні пазней рашэння выбарчай камісіі аб рэгістрацыі. А знялі яго з выбараў пасля другога папярэджання – за тое, што нібыта несвоечасова падаў дадзеныя аб разліковым рахунку выбарчага фонду.

**Марыя КАРАЛЬКОВА.**

ЗАКУЛИСЬЕ

Сергей ЧЕРЕЧЕНЬ:

# «Ситуация изменится, когда за каждой партией будет стоять хотя бы 5000 человек…»

*На днях председатель партии «Белорусская социал-демократическая Грамада» Сергей Черечень встретился сразу с двумя бывшими президентами Украины –* ***Виктором Ющенко*** *и* ***Леонидом Кучмой.*** *«Народная Воля» поинтересовалась у бизнесмена и политика не только закулисьем этой поездки.*

– Это как раз тот случай, когда работа доставляет удовольствие, – *делится своими впечатлениями Сергей Черечень.* – Три часа интересной беседы за дружеским столом с Виктором Ющенко – у меня остались только положительные эмоции. Виктор Андреевич весьма рассудительный и взвешенный человек. Я очень рад такому знакомству.

**– А как вы договаривались на встречу?**

– Станислав Станиславович Шушкевич дружит с Виктором Ющенко, поэтому мы попали к нему по звонку. У нас был комплекс встреч в Украине, мы также встречались с Леонидом Даниловичем Кучмой у него в резиденции. Тоже был долгий и интересный разговор.

**– И у Ющенко, и у Кучмы свои резиденции?**

– Да, это рабочие резиденции, где они принимают гостей, друзей. В отличие от Беларуси, в Украине немного другое отношение к бывшим лидерам страны. Их не гнобят, а ценят и уважают. Потому что это имидж и репутация страны.

**– Не так давно вы встречались также с бывшими президентами Польши Александром Квасьневским и Лехом Валенсой…**



– Я не коллекционирую знакомства с президентами. Все мои встречи нацелены исключительно на перспективу. В ближайшее время планирую провести еще ряд подобных встреч, в том числе и с некоторыми действующими. Но конкретных имен я не хотел бы пока называть.

**– Сергей, поделитесь своими впечатлениями от прошедшей парламентской кампании…**

– Мы все прекрасно видим, что происходит. И наблюдатели ОБСЕ очень четко высказали свое мнение. В принципе, мне добавить нечего. К сожалению, выборов у нас действительно нет.

Я всегда был человеком с активной гражданской позицией и наблюдал за работой, которая проводилась на политическом поле. С уважением отношусь к деятельности старых оппозиционных лидеров, но это не то, что сейчас надо стране. Я поддерживаю их инициативы как граждан нашей страны, но не готов примкнуть к их устаревшим методам и концепции смены власти. У нас одни цели, но разное понимание транзита власти. Основная задача оппозиции – завоевать широкую поддержку и популярность среди населения через конструктив и продвижение интересов электоральных масс. Только в случае реальной поддержки населения мы сможем изменить ситуацию в стране и реализовать общественную повестку.

Сейчас наша проблема в том, что власть и простые люди не считают оппозицию реальной силой. За политическими партиями, к сожалению, не видно людей.

На мой взгляд, во время следующей избирательной кампании каждая из политических структур должна собрать под своими знаменами хотя бы 5000 человек. Чтобы показать, что за каждой структурой есть люди, которые готовы прийти и поддержать своих кандидатов, их идеи.

Сейчас этого нет. На уличные акции протеста выходит всего 100–200 человек. Это мизер! Те, кто сидит дома, но не поддерживает власть, не готовы сегодня стать 201-м участником акции протеста. Но они готовы будут стать, например, 1848-м участником акции. Потому что, когда отстаивать свои права одновременно решаются десятки тысяч человек, страх отступает.

Вместе мы – сила. Поэтому я и говорю, что если во время следующей избирательной кампании за каждой политической партией будут стоять хотя бы 5000 человек с принципиальными требованиями, то ситуация в стране может измениться.

**Марина КОКТЫШ.**

**На фото (слева направо): Станислав Шушкевич, Виктор Ющенко и Сергей Черечень.**



# ПРАВААБАРОНЦЫ ЗА СВАБОДНЫЯ ВЫБАРЫ

НА СВАЕ ВОЧЫ

## Я – СВЕДЧУ!



Назіраў за парламенцкімі выбарамі ў Мінскім каледжы электронікі па вуліцы Кнорына. Там два ўчасткі. Як змяніўся настрой у старшыняў участковых камісій, калі я прыйшоў туды рэгістравацца! Сапраўды, толькі незалежнага назіральніка ім і не хапала!

Для пачатку я звярнуў увагу на склад выбарчых камісій. Як казаў некалі Сталін, зусім не важна, хто і як будзе галасаваць, але надзвычай важна, хто і як будзе лічыць галасы. Старшыня адной з камісій абрана ад Беларускага Чырвонага Крыжа. Падумалася: вось здзівіліся б заснавальнікі гэтай сусветна вядомай арганізацыі, якая традыцыйна аказвае дапамогу пацярпелым на ўзброеных канфліктах па ўсім свеце, што ў Беларусі Чырвоны Крыж – актыўны арганізатар выбараў. Таксама як і Беларускае грамадскае аб'яднанне ветэранаў, і Беларускі саюз жанчын, і Беларускі фонд міру, і рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне «Белая Русь», і БРСМ. Ад усіх гэтых грамадскіх арганізацый, якія цалкам кантралююцца і падтрымліваюцца ўладамі, у камісіі было па адным чалавеку. Як і ад наступных лаяльных да ўлад партый: Беларускай сацыяльна-спартыўнай, Камуністычнай партыі Беларусі, Беларускай аграрнай партыі і Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці. І так па ўсёй краіне. Вылучэнцаў ад дэмакратычных партый і арганізацый у выбарчыя камісіі не пусцілі.

Два чалавекі ў камісіі былі «ад грамадзян», мабыць, выканкамаўскія работнікі замаскіраваліся. Яшчэ жанчына ад Мінскага гадзіннікавага завода. Яе месца працы і падказала мне, з працаўніц якога прадпрыемства рэальна была створана амаль уся камісія!

Я прагледзеў склад другой камісіі, якая знаходзілася ў суседнім кабінеце каледжа, і не здзівіўся. Яе члены, адзін у адзін, былі вылучаны ад тых самых арганізацый. Аднастайнасць – адпрацаваная да дасканаласці прыкмета бюракратыі.

На папярэдняе галасаванне, якое ў нас чамусьці ідзе пяць дзён, я заходзіў на ўчасткі чатыры дні запар і сядзеў там кожны раз па гадзіне. Спальны раён, студэнтаў, якіх на студэнцкіх участках у многіх месцах гвалтам гналі галасаваць, няма. Колькасць выбаршчыкаў на ўчастках прыкладна аднолькавая. І гэткія ж падобныя лічбы тых, хто прагаласаваў, з'яўляліся ў пратаколах двух участкаў кожны дзень. Першы дзень – 90 і 94. Другі – 85 і 85. Трэці дзень – 88 і 87… Паверыць ім было цяжка. Хоць я і не праседжваў на ўчастку днямі напралёт, але за гадзіну майго знаходжання прыходзіла па два-чатыры чалавекі. За сем гадзін галасавання, можна падлічыць, магло прыйсці трыццаць, максімум сорак чалавек, ну няхай пяцьдзясят. Але ж не восемдзесят ці дзевяноста.

Як тут не мільгне думка: прыпіскі падчас папярэдняга галасавання для ўчастковых камісій, відаць, справа звыклая, дзякуючы ім можна накручваць галасы за праўладнага кандыдата.

У пятніцу перад абедам на ўчастак забег невысокі дзядзька з сівым вожыкам валасоў на галаве, які з ходу кінуўся да членаў камісіі з радасным воклічам:

– Добры дзень, дзяўчаты!

– Прадстаўцеся, калі ласка! – папрасіў я яго.

– Працую на гадзіннікавым заводзе, – бадзёра адказаў ён, – вось зайшоў павітацца, падтрымаць нашых работніц.

Мая прысутнасць збянтэжыла клапатлівага візіцёра, і ён хутка збег.

– «Сматрашчы» ваш? – насмешліва спытаўся я ў старшыні камісіі.

– Сматрашчый ў турме, – пакрыўдзілася яна, – а гэта наш ідэолаг!

Ідэолагі на прадпрыемствах, у выканкамах і арганізоўваюць, вобразна кажучы, гэтае шоу. Інакш выбары цяжка назваць. Шараговыя члены камісій выступаюць статыстамі. Урэшце, як і назіральнікі. На маіх участках яны амаль усе – таксама работнікі ці ветэраны працы таго ж гадзіннікавага завода.

### Дзень галасавання

Я прыйшоў за гадзіну да падліку галасоў. У восем гадзін у аўдыторыю, дзе знаходзіўся ўчастак, зайшоў міліцыянт, і дзверы зачыніліся.

– Што ён тут робіць? – звярнуўся я да старшыні камісіі.

– Для парадку, – адказала яна. Міліцыянт стаў каля мяне, і камісія пачала лічыць галасы.

Мы сядзім метраў за пяць ад састаўленых сталоў, куды са скрыняў вывалілі бюлетэні. Члены камісіі згрудзіліся вакол стала, некаторыя спінай да нас, назіральнікаў. Разбіраюць бюлетэні кожны ў свой стос, затым раскладаюць іх «па кандыдатах». Хто за каго прагаласаваў – нам не бачна. Затым яны падыходзяць да старшыні камісіі і называюць ёй колькасць галасоў за кожнага кандыдата. Мы не чуем вынікаў падліку. Старшыня камісіі запісвае лічбы на паперку і потым сама ўголас абвяшчае іх нам. Гэта рэальныя вынікі галасавання ці не – мы, назіральнікі, не ведаем, паколькі лічбы можна назваць любыя, бюлетэняў нам не паказвалі, як і ўголас нічога не казалі тыя члены камісіі, якія падлічвалі галасы. Кожны з іх падыходзіў да старшыні камісіі і напаўголасу называў сваю лічбу, а яна занатоўвала іх на паперцы. Якія былі не далейшыя дзеянні – ніхто не ведае.

Адзінае, што я дакладна пачуў, – гэта калі адзін з членаў камісіі прашаптаў старшыні, што несапраўдных бюлетэняў 23. І я здзівіўся, калі яна ўжо гучна паведаміла іншую лічбу: 5.

Нават калі б я запатрабаваў пералічыць несапраўдныя бюлетэні, мне ў гэтым, вядома ж, было б адмоўлена. Такі ў нас закон аб выбарах, такія «правы» ў назіральнікаў. Сядзім на ўчастку, як слепаглуханямыя. Не дай Божа, хто-небудзь з назіральнікаў выкажа прэтэнзіі – абвінавацяць у перашкодах працы камісіі, пазбавяць акрэдытацыі і выдаляць з участка. Дарэчы, бедных назіральніц з таго ж гадзіннікавага завода наогул не было чуваць. Ды ці для таго яны прыйшлі, каб рабіць заўвагі сваім калегам? Іх прысутнасць – для масоўкі.

Што і казаць, падчас выбараў літаральна на ўсіх этапах арганізацыя правядзення кампаніі пастаўлена дагары нагамі.

…Ішоў я з выбарчага ўчастка з пачуццём крыўды і расчаравання. Здаецца ж, не першы раз ужо назіраю і даўно ведаю ўсе гэтыя нескладаныя механізмы маніпуляцый. Але ж кожны раз маю такое адчуванне, як быццам бы выкачаўся ў брудзе. Ніхто ж мяне не піхаў на гэты выбарчы ўчастак. Не, сам пайшоў і атрымаў тыя ўражанні, пад якімі знаходзіўся і раней. Дзеля чаго, думаю я, псую настрой? Усё роўна лёс краіны не дэпутаты вызначаюць, а зусім іншая галіна ўлады, яе чыноўнікі на месцах.

Але я пайшоў у назіральнікі чарговы раз, **каб быць сведкам**! І што б зараз ні казалі з экранаў тэлевізараў, па радыё, што б ні пісалі праўладныя газеты, іншыя дзяржаўныя СМІ, як бы ні пераконвала беларусаў і ўвесь свет у «чэсных» выбарах нязменная старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі спадарыня Ярмошына, я, як і сотні іншых незалежных назіральнікаў, – жывы сведка правядзення гэтых выбараў далёка ад дэмакратычных нормаў! Чым болей будзе нас, незалежных назіральнікаў, на наступных выбарах, тым цяжэй будзе хлусліўым дэмагогам называць гэты дрэнны спектакль выбарамі. Усе наступныя чатыры гады я буду настойліва сведчыць пра тое, што я бачыў на ўласныя вочы. Бо ў чым жа яшчэ, як не ў праўдзе, наша сіла?!

**Алесь БЯЛЯЦКІ, праваабаронца.**

*✶15 кандыдатаў у дэпутаты былі пазбаўлены рэгістрацыі за розныя парушэнні выбарчага заканадаўства (у 2016 г. – адзін).*

*✶Колькасць прадстаўнікоў апазіцыйных партый у складзе ўчастковых выбарчых камісій самая нізкая за 10 гадоў – 21 чалавек.*

*✶ 23 праграмы кандыдатаў былі зняты з эфіру альбо не апублікаваны ў газетах. Дзясяткі выступленняў падвергліся цэнзуры.*

*✶35,77%. Колькасць выбаршчыкаў, якія ўзялі ўдзел у датэрміновым галасаванні, – найбольшая за ўсю гісторыю незалежнай Беларусі. Абсалютны рэкорд на выбарчым участку №547 Коласаўскай выбарчай акругі №106 – 72,6%!*

*✶І адзіны пазітыў: доля жанчын сярод зарэгістраваных кандыдатаў складае 27%, што на 2% больш, чым падчас выбараў у 2016 годзе.*

ЛЮСТЭРКА

## Жаночая карта сёмай Палаты

У новай Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу прадстаўлены 44 жанчыны, што складае 40 працэнтаў ад усяго складу. У Палаце шостага склікання было менш дэпутатак – 38. Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына вельмі ганарыцца гэтымі лічбамі. Неяк яна сказала: «Мы рухаемся да еўрапейскага гендарнага патрабавання». Парадаксальна, што ў гэтым выпадку яна гаворыць пра нейкія стандарты. Калі мець на ўвазе непасрэднае правядзенне выбараў, то тут нам да еўрапейскай дэмакратыі – як да месяца. Міжнародныя назіральнікі ад АБСЕ і ПАСЕ не прызналі беларускія выбары адпавядаючымі міжнародным стандартам.

Думаецца, што з 35-га радка ў рэйтынгу Міжпарламенцкага саюза па колькасці жанчын наш парламент пераскочыць вышэй. Такія пазітыўныя зрухі вельмі патрэбны беларускім уладам. Напрыклад, у Нацыянальным плане дзеяння па забеспячэнні гендарнай роўнасці на 2017–2020 гады адзначаецца, што ў Беларусі забяспечана дэкларуемае міжнароднымі дакументамі 30-працэнтнае прадстаўніцтва жанчын на ўзроўні прыняцця рашэнняў. Гэта ледзь не адзін з першых момантаў, на які звяртае ўвагу Савет міністраў у Нацыянальным плане.

Увогуле на дэпутацкія месцы ў выбарчай гонцы – 2019 прэтэндавала 151 жанчына з 560 усіх кандыдатаў. Партрэт кандыдаткі ў дэпутаты выглядаў наступным чынам: жанчына гадоў 46, якая займае кіруючую пасаду ў сферы адукацыі (хутчэй за ўсё гэта дырэктар школы). Вылучалася ў кандыдаткі ад праўладнай партыі. Дарэчы, у 28 выбарчых акругах са 110 увогуле не вылучаліся жанчыны. Пры гэтым чыста «жаночых» акруг увогуле не было.

Людміла ГУЛЯЕВА.

БЕЗ КАМЕНТАРЫЯЎ

## У Мікалая Казлова – 7,18% галасоў, у Ігара Барысава – 1,41%

*Колькі галасоў на мінулых выбарах набралі прадстаўнікі апазіцыі паводле афіцыйных дадзеных, якія апублікаваў ЦВК?*

У справаздачы ЦВК па выніках галасавання супраць наступных прозвішчаў стаяць такія лічбы:

**Ірына Вештард,** сябра і былы лідар БСДП (Грамада) – **10,15%**.

**Ірына Дамаскіна,** сябра Партыі БНФ з Наваполацка, – 9,47%.

**Ірына Давідовіч,** сябра АГП з Іўе, перадвыбарнае выступленне якой не пусцілі на тэлебачанне, – **9,24%**.

**Вадзім Саранчукоў,** сябра Партыі БНФ з Гродна, – **9,23%**.

**Мікалай Казлоў,** лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі, які неадноўчы спрабаваў даказаць факты фальсіфікацый на выбарах, – **7,18%**.

**Мікалай Маслоўскі,** блогер з Мінска, сябра АГП, выступленне якога знялі з тэлеэфіру, – **4,61%**.

**Вольга Кавалькова,** сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя», – **3,52%**.

**Іван Крук,** сябра АГП з Астраўца Гродзенскай вобласці, – **3,44%**.

**Аляксандр Бухвостаў,** лідар Свабоднага прафсаюза металістаў, – **2,80%**.

**Уладзімір Няпомняшчых,** сябра АГП з Гомеля, перадвыбарнае выступленне якого знялі з тэлеэфіру, – **1,64%**.

**Наталля Гарачка,** сябра БСДП (Грамада), актыўная абаронца Курапатаў, – **1,47%**.

**Ігар Барысаў,** старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), – **1,41%**.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

**P.S.** А вось якія вынікі зафіксаваны ў двух прадстаўнікоў кампаніі «Гавары праўду» – у лідара арганізацыі **Андрэя Дзмітрыева**, які балатаваўся па Дзяржынскай акрузе Мінскай вобласці, – 12,51% і ў сябра кампаніі са Стоўбцаў **Мікалая Лысёнкава** – 13,1%.

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## У РОЛІ ЦЭНЗАРАЎ

Што і казаць, нямала фактаў, якія сведчаць пра тое, што перадвыбарныя праграмы і выступленні шэрагу кандыдатаў у дэпутаты падвяргаліся цэнзуры. Гэта з той мэтай, каб не прагучалі нязручныя пытанні. Няглядзячы, заўважу, на тое, што дзеючае выбарчае заканадаўства не прадугледжвае патрабавання ўзгаднення тэкстаў выбарчых матэрыялаў з якім-небудзь органам і не накладае такіх абавязкаў на саміх кандыдатаў. Як і ні ў якім дакуменце не згадваецца на тое, што прэтэндэнтам на дэпутацкі мандат нельга ў сваіх праграмах і выступленнях гаварыць, што ў нашай дзяржаве не ўсё ідзе гладка, што існуюць праблемы, якія патрабуюць вырашэння.

У параўнанні з мінулымі выбарамі дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў назіральнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» канстатуюць, што колькасць фактаў цэнзуравання істотна павялічылася ў параўнанні з мінулымі выбарамі. Афіцыйнай прычынай адмовы публікаваць перадвыбарную праграму ці трансляваць выступленне кандыдата ў эфіры, як правіла, служылі «прыкметы парушэння арт.47 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь».

Аналіз пададзеных у рэдакцыі газет перадвыбарных праграм кандыдатаў у дэпутаты і звестак аб іх публікацыі паказвае, што не былі надрукаваны праграмы 23 прэтэндэнтаў, што складае 1,5 працэнта ад агульнай колькасці прапанаваных выступленняў.

Найбольшую колькасць прамоў, якіх не пачулі выбаршчыкі, «зарубілі» «ідэалагічныя мяснікі» з рэгіянальных СМІ і цэнтральнай рэдакцыі тэлеканала «Беларусь 3».

Грош цана «цэнзарам», якія бачаць чорнага ката ў цёмным склепе. Так, перадвыбарная праграма кандыдата ў дэпутаты па Бабруйскай-Ленінскай акрузе Аляксандра Комара не была апублікавана газетай «Бабруйскае жыццё» з-за фразы «З Лукашэнкам у краіны няма будучыні», якую рэдакцыйны савет палічыў крамолай. Але пасля абскарджвання адпаведнага рашэння рэдакцыйнага савета газеты ў ЦВК праграма была апублікавана. Праўда, усё адно без гэтай фразы. Скажыце, а як жа са свабодай слова, волевыяўленнем народа? Калі чалавек мяркуе, што Беларусь павінна звязваць сваю будучыню з іншым лідарам, дык у чым тут крамола? Ён жа нікога не абражае, ён толькі выказвае сваю пазіцыю.

Артыкул 47. **Абмежаванні пры правядзенні перадвыбарнай агітацыі, агітацыі па рэферэндуме**

*Забараняецца агітацыя, пры правядзенні якой ажыццяўляецца прапаганда вайны, утрымліваюцца заклікі да гвалтоўнай змены канстытуцыйнага ладу, парушэння тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь, абразы і паклёп у дачыненні да службовых асоб Рэспублікі Беларусь, кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, у дэпутаты, а таксама заклікі, якія падахвочваюць або якія маюць сваёй мэтай падахвочванне да зрыву, або адмены, або пераносу тэрміну выбараў, рэферэндуму, прызначаных у адпаведнасці з заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь.*

*Забараняецца агітацыя ці прапаганда сацыяльнай, расавай, нацыянальнай, рэлігійнай ці моўнай перавагі, выпуск і распаўсюджванне паведамленняў і матэрыялаў, якія абуджаюць сацыяльную, расавую, нацыянальную ці рэлігійную варожасць.*

Цэнзура на БТ перадала эстафету друкаваным выданням.

Так, праграма Дзіяны Чарнушынай не прайшла цэнзуру рэдакцыі газеты «Звязда».

Лідарам па забароне падчас парламенцкіх выбараў стаў слоган кампаніі «Еўрапейская Беларусь» «Калгаснай дыктатуры – баста». Ён не толькі не прагучаў у эфіры, але нават ягонае размяшчэнне на агітацыйных стэндах ініцыятыўных груп прыводзіла да вынясення папярэджання кандыдатам у дэпутаты. З якога гэта часу нават метафарычнасць пачала лічыцца парушэннем закона?




Цікавымі думкамі на гэты конт падзяліўся ў сацыяльных сетках сябра Назіральнага савета па кантролі за выкананнем парадку і правілаў правядзення перадвыбарнай агітацыі ў сродках масавай інфармацыі Андрэй Бастунец. Ён двойчы браў удзел у пасяджэнні гэтага органа пры ЦВК. Эксперт пераканаваны, што ніяк не можа з'яўляцца абразай (наўмысным прыніжэннем гонару і годнасці асобы, выяўленым у непрыстойнай форме), скажам, надпіс на майцы кандыдата «ЗА Беларусь без Лукашэнкі. Хопіць, дастаў».

*«Мая пазіцыя: дзяржаўныя медыя прадстаўляюць толькі плошчу і час і не могуць умешвацца ў змястоўную частку. І выступленне можа быць знята толькі ў выключных выпадках»,* – адзначае Андрэй Бастунец.

У рэшце рэшт ёсць суд, за якім можа быць апошняе слова. Але не за членамі камісій, якія ў некаторых выпадках адначасова выконвалі ролю цэнзараў і суддзяў.

**Сяржук СЫС.**

БЕЗ РЭТУШЫ

# ...І НЕРВЫ ЗДАЛІ



*Цэнтрвыбаркам адрапартаваў пра рэкордна высокую яўку на парламенцкіх выбарах – прагаласаваць, паводле падлікаў Ярмошынай, прыйшло больш за 77 працэнтаў беларусаў, якія маюць права ўдзелу ў выбарах. У парламент у выніку не трапіў ніводзін апазіцыянер.*

*Падчас датэрміновага галасавання штодзень з'яўляліся факты парушэння выбарчага заканадаўства – ад загону студэнтаў на выбарчыя ўчасткі да абраз і нападаў на незалежных назіральнікаў.*

*Я папрасіла ацаніць вынікі выбараў **Валянціна Стэфановіча,** які шмат гадоў з'яўляецца ўдзельнікам кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары».*




**– Сёлета Цэнтрвыбаркам заявіў пра рэкордную для парламенцкіх выбараў яўку – больш за 35 працэнтаў на датэрміновым галасаванні і больш за 77 працэнтаў цалкам. Пра што гэта сведчыць?**

– Сапраўды, лічбы рэкордныя, калі параўнаць з афіцыйнымі вынікамі парламенцкіх выбараў у папярэднія гады. Але ўзгадаем, што на папярэдніх прэзідэнцкіх выбарах, паводле дадзеных Ярмошынай, прагаласаваць прыйшло 87,2 працэнта беларусаў. Яўка па-ранейшаму з'яўляецца ключавым паказчыкам для ўлады, якая хоча паказаць, што большасць грамадства выбары прызнае, дабраахвотна ўдзельнічае і абірае тую ўладу, якую мы ў выніку маем. Не выключана, што на будучых прэзідэнцкіх выбарах у 2020 годзе ЦВК дасць яшчэ большыя лічбы.

Хачу звярнуць асаблівую ўвагу на датэрміновае галасаванне, якое ўжо стала традыцыйным і ў Беларусі працуе не як выключэнне, а як правіла. На этапе датэрміновага галасавання адбываюцца шматлікія парушэнні выбарчага заканадаўства. Ад прымусу прыйсці прагаласаваць да завышэння яўкі; на многіх участках, дзе былі незалежныя назіральнікі, яўка была завышаная, лічы, у два разы, а на некаторых участках нават болей.

**– Падаецца, відэаназіранне дапамагло б вырашыць гэту праблему. Калі ў прамым эфіры мы бачым, што прыйшло 20 чалавек, а камісія піша 200, такое ўжо не схаваеш.**

– Безумоўна, відэаназіранне магло б зняць шмат пытанняў. У Расіі, дзе на ўчастках усталяваны відэакамеры, так лічаць яўку. У рэжыме рэальнага часу на дзяржаўным сайце можна паглядзець у замаруджаным руху, колькі чалавек насамрэч прыйшло прагаласаваць. Апроч таго, калі б відэа працавала і ноччу, была б упэўненасць, што са скрынямі для датэрміновага галасавання нічога не робяць.

У паўсядзённым жыцці мы часта сутыкаемся з відэаназіраннем – на тых жа вуліцах, ні ў кога гэта не выклікае абурэння, а выбары – гэта публічны працэс, надзвычай важны для дзяржавы. Таму ніякіх заканадаўчых абмежаванняў, каб усталяваць камеры на ўчастках, няма. Пытанне толькі ў волі дзяржавы.

30 працэнтаў назіральнікаў кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» зафіксавалі факты прымусу выбаршчыкаў да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні (для параўнання: у 2016 годзе пра гэта сведчылі 18 працэнтаў назіральнікаў).

Тое, як сёння праходзіць датэрміновае галасаванне, патрабуе сур'ёзных змен працэдуры. Трэба або ўвогуле адмаўляцца ад гэтай практыкі, бо кіруючая ўлада яе ператварае ў спосаб фальсіфікацый, або дазваляць датэрмінова галасаваць у выключных выпадках пры прадастаўленні даведкі, або даваць адмацавальныя талоны, каб чалавек змог прагаласаваць у іншым населеным пункце, дзе ён будзе знаходзіцца падчас асноўнага дня галасавання.

**– Ці можна лічыць парушэннем выбарчага заканадаўства тое, што выкладчыкі ўніверсітэтаў настойліва запрашаюць студэнтаў прагаласаваць датэрмінова? Мы бачылі відэа з Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта, на якім куратар кажа студэнтам, што, калі яны не прагаласуюць загадзя, яе будуць «нахіляць». Але старшыня ЦВК нічога заганнага ў гэтым не зафіксавала…**

– Канкрэтна па гэтым выпадку я дасылаў скаргу ў пракуратуру. Гэта не запрашэнне, гэта канкрэтны загад. Куратар пяць разоў кажа, што студэнты абавязаны прагаласаваць. Апроч таго, падкрэслівае, што адміністрацыя адсочвае, хто прагаласаваў, а хто не. Яна гаворыць гэта студэнтам, якія, хутчэй за ўсё, галасуюць упершыню, таму могуць не ведаць усіх правіл. Студэнты, якія жывуць у інтэрнаце, то бок знаходзяцца ў залежным стане, баяцца страціць жыллё. Якое ўражанне ў выбаршчыкаў можа скласціся? Толькі адно: не прагаласую – мне будзе горш. Таму, калі выкладчык вось так кліча на выбары, гэта не запрашэнне, гэта загад. Наогул ВНУ не з'яўляюцца суб'ектамі выбарчага працэсу. Універсітэт павінен даваць веды, гэта не яго справа – займацца выбарамі.

**– Галасаваць – наша права ці ўсё ж грамадзянскі абавязак, як часта мы чуем ад афіцыйных асоб?**

– У Канстытуцыі і Выбарчым кодэксе дакладна замацавана, што гэта права грамадзяніна. Ён сам вырашае, ці варта браць удзел у выбарах і за каго галасаваць. Ніякай адказнасці за тое, што грамадзянін не пайшоў на выбары, няма і быць не можа.

А вось за прымус прыйсці на выбарчы ўчастак адказнасць акурат існуе. Незалежныя назіральнікі фіксавалі нават такія факты, што вахцёр інтэрната (толькі падумайце, нават не кіраўнік) тэлефанаваў жыхарам і заганяў іх на выбары. Гэта дзеянні незаконныя, мы катэгарычна асуджаем такую практыку.

**– Сёлета на незалежных назіральнікаў літаральна нападалі назіральнікі з праўладных арганізацый. Актывісту хрысціянскіх дэмакратаў нават давялося выклікаць «хуткую дапамогу». Гэта новы трэнд?**

– Насамрэч гэта з'ява не новая, такія факты мы фіксавалі і на ранейшых выбарах. Існавалі нават рэкамендацыі, як правільна нейтралізаваць незалежных назіральнікаў, – трэба пісаць на іх скаргі, загаворваць ім зубы, перашкаджаць сачыць за падлікам галасоў і г.д.

Звярну ўвагу, што, паводле дадзеных незалежных назіральнікаў, на 35 працэнтах выбарчых участкаў, дзе ажыццяўлялася назіранне, не агалошваліся вынікі асобнага падліку галасоў, на 47 працэнтах участкаў падлік бюлетэняў не ажыццяўляўся асобна за кожнага кандыдата, на 63,7 працэнта участкаў назіральнікі знаходзіліся ў нязручным для ажыццяўлення назірання за падлікам галасоў месцы.

У праўладных назіральнікаў, мы бачым гэта кожную выбарчую кампанію, толькі адна мэта – легалізаваць вынікі выбараў. Па сутнасці, гэта фейкавае назіранне. Па выніках яны ніколі не выступаюць з публічнымі дакладамі, не агучваюць свае рэкамендацыі, што трэба змяніць у выбарчым працэсе. У нас жа на кожным этапе – справаздачы, мы падрабязна тлумачым метады і прынцыпы, паводле якіх працуем.

Што датычна агрэсіўных выпадаў, з якімі сутыкаліся незалежныя назіральнікі падчас парламенцкіх выбараў, то сапраўды можна сказаць, што тон улады змяніўся. Кампанія пачалася досыць спакойна, у канцы мы ўжо чулі з вуснаў Аляксандра Лукашэнкі, можна сказаць, абразы і прамыя пагрозы.

**– АБСЕ ў чарговы раз не прызнала выбары ў Беларусі. Як вы лічыце, ці прыслухаецца ўлада да заўваг? Выглядае, што парламенцкія выбары – рэпетыцыя перад прэзідэнцкімі, якія пройдуць у жніўні 2020 года. Чаго варта чакаць?**

– Паводле нашых ацэнак, парламенцкія выбары – 2019 не прывялі да значнага росту рэпрэсій, і гэта, безумоўна, пазітыўны момант. Улада старалася не ўжываць жорсткія метады падаўлення іншадумства. Праходзілі шэсці, пікеты. Было некалькі фактаў, калі маладыя хлопцы ў цывільным спрабавалі напасці, псавалі апаратуру, але збіцця людзей, адміністрацыйных арыштаў амаль не было – улада прадэманстравала цярпенне. Аднак пад канец кампаніі мы бачым, што нервы здалі: назіральнікі сутыкнуліся з нападкамі, члены камісій забаранялі не тое што падысці да стала, дзе праводзіцца падлік, а нават здымаць працэс з далёкай адлегласці, у тым ліку журналістам. Гэта кажа пра тое, што ўлады гатовы дэманстраваць спрыяльны фон – для супакаення Захаду, але палітычныя працэсы будуць праходзіць без змен, тут усё заліта бетонам. Складана прагназаваць, што будзе ў 2020 годзе, але мы не выключаем, што рэпрэсіі могуць узрасці.

**Вольга НАВІЦКАЯ.**

ПАРАЎНАЕМ!

# Шлагбаум перад апазіцыяй

*Характэрнай рысай сёлетняй выбарчай кампаніі ў Палату прадстаўнікоў стала вялікая колькасць – 14 – кандыдатаў, якіх не па іх волі пазбавілі статусу кандыдата яшчэ да пачатку галасавання, на этапе агітацыі. І ўсе яны – прадстаўнікі апазіцыі.*

*З чым звязана такое строгае стаўленне выбарчых камісій да кандыдатаў падчас гэтай кампаніі?*

ХА-ХА...

## Чым «правініліся» кандыдаты?

У гэтай парламенцкай кампаніі ўлады былі максімальна прыдзірлівыя да друкаваных матэрыялаў кандыдатаў. Для некаторых з іх памылкі ці недакладнасці сталі фатальнымі. Так, акурат перад пачаткам датэрміновага галасавання з выбараў знялі кандыдатку ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Вольгу Беляўцову**, якая вылучалася па Заслаўскай выбарчай акрузе №77. Адным з парушэнняў, якое стала падставай для пазбаўлення рэгістрацыі, палічылі тое, што на агітацыйных улётках кандыдаткі не быў пазначаны нумар пасведчання аб дзяржаўнай рэгістрацыі вытворцы друкаваных выданняў і дата яго выдачы.

Таксама ўлёткі без выхадных дадзеных і распаўсюджанне іх не ў належных месцах сталі адной з падстаў пазбаўлення рэгістрацыі брэсцкага актывіста, праціўніка ўводу ў дзеянне акумулятарнага завода **Уладзіміра Мароза**, які балатаваўся па Брэсцкай-Памежнай акрузе №4. Паводле слоў членаў акруговай камісіі, яны атрымалі заявы ад некалькіх жыхароў Брэста, якія нібыта скардзіліся на ўлёткі ад ініцыятыўнай групы Мароза. У гэтых улётках без выхадных дадзеных брэстаўчан запрашалі прыйсці на мітынг. Таксама ўлёткі былі знойдзены ў месцах, не прадугледжаных для размяшчэння агітацыйных матэрыялаў. За гэта кандыдат атрымаў адно з папярэджанняў, пасля чаго яго пазбавілі рэгістрацыі. Аднак ініцыятыўная група і сам Мароз сцвярджалі, што яны не распаўсюджвалі такія ўлёткі, і відавочна, што гэта была правакацыя, зробленая, каб кандыдату вынеслі папярэджанне.

За друкаваныя матэрыялы, якія, паводле меркавання выбарчых камісій, не мелі дачынення да палітычнай кампаніі, знялі з выбараў актывістаў «Еўрапейскай Беларусі» **Арцёма Чарняка** і **Вольгу Нікалайчык**.

**Сяргей ПАЎЛЮЧЫК.**

НУ І НУ!

## Выбарчая камісія мусіла ведаць…

Артыкул $45^1$ Выбарчага кодэкса сцвярджае, што кандыдаты ці іх давераныя асобы, перад тым як правесці агітацыйнае масавае мерапрыемства, мусяць не пазней як за два дні паведаміць пра яго ў выканаўчыя органы. Тым, хто не выканаў патрабаванне кодэкса, акруговыя камісіі таксама выносілі папярэджанні.

Для экс-кандыдатаў Уладзіміра Мароза і Вольгі Беляўцовай гэта стала яшчэ адным парушэннем, якое прывяло да пазбаўлення рэгістрацыі. Так, ініцыятыўная група Мароза размясціла ў сацыяльных сетках інфармацыю пра сустрэчу з кандыдатам, якая мусіла адбыцца 31 кастрычніка. Але пра гэтую сустрэчу не паведамілі ні ў выбарчую камісію, ні ў выканкам. У выніку сустрэчу адмянілі. Але хоць яна і не адбылася, акруговая камісія ўсё роўна палічыла гэта парушэннем закона.

Што датычыцца Вольгі Беляўцовай, то ў яе выпадку сітуацыя выглядае зусім абсурднай. Ёй вынеслі папярэджанні за дзве сустрэчы з выбаршчыкамі, якія адбыліся «не ў заяўленых месцах». Паводле слоў Беляўцовай, гэтыя сустрэчы былі арганізаваны для інстуктажу будучых назіральнікаў за выбарамі. Атрымліваецца, усе сустрэчы кандыдатаў, незалежна ад іх мэты, трэба прыраўноўваць да агітацыйных сустрэч?

**Вера КАВАЛЬКОВА.**

STOP

## Вучышся за мяжой – не можаш балатавацца

Самай незвычайнай падставай, паводле якой з выбарчай гонкі быў зняты кандыдат, стала «*адсутнасць пастаяннага месца жыхарства ў Беларусі*». Такім кандыдатам стаў **Уладзіслаў Сыса** з Брэста, які вылучаўся ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. Акруговая камісія спаслалася на тое, што хлопец вучыцца ў магістратуры ў Варшаве і шмат часу праводзіць за мяжой. На думку камісіі, гэта парушае артыкул 57 Выбарчага кодэкса, які прадугледжвае, што кандыдат у дэпутаты павінен пастаянна пражываць на тэрыторыі Беларусі. Пры гэтым Сыса меў і мае пастаянную беларускую прапіску. Уладзіслаў абскардзіў адмену сваёй рэгістрацыі ў Цэнтрвыбаркам, аднак там не знайшлі падставы для аднаўлення яго ў статусе кандыдата.

Эксперты кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», якая ажыццяўляла маніторынг усёй выбарчай кампаніі, лічаць неправамерным пазбаўленне Сысы кандыдацкага статусу.

«*Паводле заканадаўства, кандыдат у дэпутаты мусіць пастаянна пражываць на тэрыторыі Беларусі. Але пры гэтым у нас у заканадаўстве няма азначэння, што такое «пастаяннае пражыванне». Паводле нашага меркавання, грамадзянін лічыцца пастаянна пражываючым на тэрыторыі Беларусі ажно да выезду на пастаяннае месца жыхарства ў іншую дзяржаву з афармленнем пашпарта адпаведнай формы. А кіруючыся логікай Брэсцкай абласной камісіі, у нас не могуць стаць кандыдатамі, напрыклад, кіроўцы, якія ажыццяўляюць перавозкі за мяжой, ці работнікі, якія працуюць у іншых краінах вахтавым метадам. Таму мы лічым, што гэта неправамерна*», – адзначае аналітык кампаніі **Павел Сапелка**.

**Віктар МАЛЬЦАЎ.**

ВОЛЬНАЯ ТРАКТОЎКА

## Кажаш пра незадаволенасць уладай – спрабуеш змяніць канстытуцыйны лад

Адной з прычын пазбаўлення кандыдатаў рэгістрацыі стала «распальванне сацыяльный варожасці» і «заклікі да змены ўлады», забарона на якія прапісана ў 47-м артыкуле Выбарчага кодэкса. Прычым гэтыя забароны сябры выбарчых камісій трактавалі даволі шырока і «падганялі» пад іх любыя фармулёўкі, які ўтрымлівалі крытыку дзеючай улады.

Першай кандыдаткай, якую пазбавілі рэгістрацыі за непажаданыя заклікі, стала брэсцкая актывістка **Паліна Шарэнда-Панасюк**. Міліцыя паскардзілася ў акруговую камісію на «не зусім перадвыбарныя» пікеты актывісткі і парушэнне ёй тым самым Выбарчага кодэкса. Падчас пікетаў яна выкрыквала лозунгі «Лукашэнка мусіць сысці», «Баста!», «Лукашэнка скраў выбары», «Парламента ў Беларусі няма». У выніку выбарчая камісія пастанавіла, што падчас сваіх выступленняў на тэлебачанні і на вулічных пікетах Шарэнда-Панасюк груба парушыла артыкул 47 ВК. У яе прамовах камісія ўбачыла і абразу дзяржаўных асоб усіх узроўняў, і заклікі да выхаду на вуліцу для змены канстытуцыйнага ладу, і распальванне сацыяльнай варожасці.

Іншай акруговай камісіі не спадабалася перадвыбарная праграма Уладзіміра Мароза. Яна ўтрымлівала фразу: «*Мы сутыкнуліся з несправядлівым судом, міліцэйскім бязмежжам, бяздзеяннем чыноўнікаў…*» Менавіта гэтыя словы камісія палічыла «інфармацыяй, якая ганьбіць гонар дзяржаўных органаў і судовай сістэмы». Ці ж не смешна?

Аналітык кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» **Уладзімір Лабковіч** лічыць, што адмена рэгістрацыі кандыдатаў па такіх сумніўных падставах рабілася з мэтай мінімізаваць палітычнасць перадвыбарнай кампаніі. «*Апазіцыйныя кандыдаты былі абмежаваны ў магчымасці крытыкаваць сваіх апанентаў. Задача ўлад была звесці выбары дэпутатаў, якія мусяць быць палітычным працэсам, да конкурсу лепшага сацыяльнага работніка. Усялякая палітычная павестка забаранялася. Адзіны шанец застацца ў гонцы – даносіць сацыяльную павестку. Уся гэта сітуацыя паказвае дэградацыю палітычнай барацьбы ў краіне*».

**Анастасія ВАСІЛЬЧУК.**

ПАРТРЭТ

# ХТО ЯНА – БЕЛАРУСКАЯ ДЭПУТАТКА?

*Сённяшняя сярэднестатыстычная дэпутатка Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу сёмага склікання – гэта беспартыйная жанчына 48 гадоў, якая прадстаўляе галіну адукацыі.*

*Ні адна апазіцыйная кандыдатка не прайшла ў новы парламент. Роўна як і кандыдаты ад апазіцыі.*

*Давайце паглядзім, як усё было на практыцы. Хто гэтыя жанчыны, якія бліжэйшыя чатыры гады будуць «прымаць рашэнні» на ўзроўні дзяржавы?*

## Мінск

У Мінску амаль атрымалася гендарная роўнасць: 9 дэпутатак з 20. Абсалютная большасць з іх беспартыйныя. Дзве дэпутаткі з'яўляюцца сябрамі праўладных партый: Беларускай патрыятычнай партыі і Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці. Гэта дзве дэпутаткі, якія «перавыбраліся» на новы тэрмін: Таццяна Сайганава і Аксана Гайдук. Яшчэ дзве новыя-старыя дэпутаткі Ганна Старавойтава і Людміла Макарына-Кібак вылучаліся ад працоўных калектываў і шляхам збору подпісаў. Дарэчы, усе дэпутаткі Парламента шостага склікання, якія выказалі жаданне пайсці на другі тэрмін, былі абраны. Па ўсёй Беларусі налічваецца шаснаццаць «перавыбраных».

Сярэдні ўзрост дэпутатак, якія былі абраны па 20 мінскіх акругах, – 39 гадоў. Такі малады ўзрост атрымаўся дзякуючы 22-гадовай «Міс Беларусь – 2018» Марыі Васілевіч. Гэта самая маладая дэпутатка не толькі парламента сёмага склікання, а ўвогуле за 25-гадовую парламенцкую гісторыю Беларусі.

Дэпутаткай стала і суддзя Вярхоўнага суда Святлана Любецкая. Сярод тых, хто атрымаў мандат вышэйшага заканадаўчага органа, ёсць таксама прадстаўніцы галіны адукацыі і медыцыны.

## Мінская вобласць

Па гэтым рэгіёне з 17 дэпутатаў восем жанчын, сярэдні ўзрост якіх 52 гады. Большасць з іх з'яўляюцца дэпутатамі Палаты мінулага склікання. Яны былі «перавыбраны» па пяці акругах: Маладзечанскай гарадской №72, Салігорскай сельскай №69, Капыльскай №66, Заслаўскай №77, Слуцкай №67. Сярод іх і тая, хто ўзначальвала Пастаянную камісію Палаты прадстаўнікоў па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі. Усе беспартыйныя, акрамя Людмілы Ніжэвіч: яна сябра Беларускай аграрнай партыі.

## Гомельская вобласць

Тут з 17 дэпутатаў толькі пяць жанчын. Большасць з іх камуністкі. Па Гомельскай вобласці «перавыбралі» на новы тэрмін па Жыткавіцкай акрузе №39 дэпутатку-камуністку Ірыну Кралевіч. У Палаце шостага склікання яна была сябрам Пастаяннай камісіі па пытаннях экалогіі, прыродакарыстання і чарнобыльскай катастрофы.

Дэпутаткай стала і загадчыца аддзялення ў Гомельскай бальніцы. Іншыя дэпутаткі ўжо вядомы ў дзяржаўнай сістэме кіравання. Тут і ідэалагіня Гомельскага аблвыканкама, і старшыня Мазырскага райсавета дэпутатаў, і намесніца старшыні Хойніцкага райвыканкама.

## Брэсцкая вобласць

Абраныя дэпутаты і дэпутаткі суадносяцца як 6 да 16. Большасць з іх беспартыйныя. У Брэсцкай вобласці таксама не абышлося без дэпутаткі шостага склікання. Гэта сябра праўладнай Рэспубліканскай Партыі працы і справядлівасці Жанна Стаціўка.

Цяпер у дэпутатках камуністка і першая сакратарка Бярозаўскага БРСМ Наталля Голуб. Патрапіла ў Палату сёмага склікання ад Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці і старшыня Драгічынскага райсавета дэпутатаў.

## Віцебская вобласць

Па гэтай вобласці з 14 дэпутатаў пяць беспартыйных жанчын. Ад Віцебскай вобласці ў Палаце сёмага склікання прадстаўлены: дырэктар школы, дырэктар універмага, старшыня аднаго з прафсаюзаў, загадчыца радзільнага дома і намесніца галоўнага ўрача гарадской бальніцы. Усе яны вылучаліся ў тым ліку ад працоўных калектываў.

## Гродзенская вобласць

Тут у парламент патрапілі толькі чатыры жанчыны з сямнаццаці. Палова з іх – «перавыбраныя» дэпутаткі: Лілія Кір'як і Тамара Далгашэй. З імі па вобласці ў Палату трапілі беспартыйныя – галоўны ўрач дзіцячай бальніцы Ірына Луканская і страшыня прафсаюза адной з гродзенскіх арганізацый.

## Магілёўская вобласць

Гэта адзіная вобласць, дзе жанчыны складаюць большую частку дэпутацкага складу: 7 з 13. Сярод іх тры дэпутаткі мінулага склікання. Усе яны беспартыйныя і вылучаліся з дапамогай працоўных калектываў. Тры прадстаўляюць галіну адукацыі ў рэгіёне: дырэктар бабруйскага каледжа, дырэктар магілёўскай школы і старшыня аддзела адукацыі Магілёўскага райвыканкама.

Толькі адна дэпутатка з'яўляецца сябрам партыі – дырэктар школы камуністка Людміла Здорыкава. Дэпутаткай стала і галоўны рэдактар праўладнага выдання «Магілёўскія ведамасці» Святлана Шутава.

**Кастусь МАЛІНОЎСКІ.**

ПАМЯЦЬ

# Кастусь КАЛІНОЎСКІ: «Кажу табе з-пад маскоўскай шыбеніцы, Народзе…»

*Сёння ў Вільнюсе адбываецца ўрачыстае перапахаванне Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў па паўстанні 1863 года. Са старажытнага Кафедральнага касцёла, дзе раніцай прайшла паніхіда па паўстанцах, труны ў суправаджэнні ганаровага вайсковага эскорту былі дастаўлены на гістарычныя могілкі Росы, дзе, паводле рашэння літоўскіх улад, з'явіўся адмысловы мемарыял.*

*У цырымоніі бярэ ўдзел дэлегацыя Беларусі на чале з віцэ-прэм'ерам Ігарам Петрышэнкам. Паводле папярэдніх звестак, у Вільнюс з гэтай нагоды прыехалі тысячы беларусаў – Беларуская чыгунка нават пусціла некалькі дадатковых цягнікоў, а турыстычныя кампаніі арганізавалі адмысловыя двухдзённыя туры ў сталіцу Літвы.*

*Удзел у жалобным мерапрыемстве ўрадавай дэлегацыі з Мінска – яскравы адказ тым самаўпэўненым беларускім чыноўнікам і дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, якія апошнім часам у сваіх публічных выступленнях спрабавалі пазбавіць Каліноўскага звання нацыянальнага героя, залічваючы яго то ў «польскія мяцежнікі», то ў «мясцовыя тэрарысты». Трэба прызнаць, што ў сваёй адыёзнай дзейнасці яны дамагліся пэўных вынікаў – былі скасаваны дзяржаўны ордэн Кастуся Каліноўскага (яго ніхто так і не атрымаў) і Дзяржаўная прэмія імя Каліноўскага (яе лаўрэатамі паспелі стаць усяго трое). А таксама са школьнай праграмы па беларускай літаратуры была выключана публіцыстыка Каліноўскага – тэксты, апублікаваныя ў газеце «Мужыцкая праўда» пад псеўданімам Яська-гаспадар з-пад Вільні, і знакамітыя «Пісьмы з-пад шыбеніцы».*

*Гэтыя творы-дакументы і сёння гучаць надзвычай надзённа, асабліва развітальныя «Пісьмы з-пад шыбеніцы». Напісаныя ў расійскай турме ў чаканні смяротнага пакарання і нелегальным шляхам перададзеныя на волю, яны ўяўляюць сабой своеасаблівы духоўны тастамент Каліноўскага беларускаму народу. Упершыню пісьмы былі апублікаваны ў Парыжы гісторыкам паўстання Агатонам Гілерам у 1867 годзе, ён жа даў ім і загаловак – «Да беларускага люду. Пісьмы з-пад шыбеніцы Канстанціна Каліноўскага» (аўтограф аднаго з іх быў адшуканы Уладзімірам Казберуком у варшаўскім архіве ў 1980-м).*

*На першы погляд падаецца, што ў сваіх «Пісьмах…» К.Каліноўскі занадта катэгарычна выказваецца на адрас Расіі. Але трэба памятаць, што яны пісаліся ў той час, калі Мураўёў-вешальнік ужо падпісваў смяротныя прысуды паўстанцам (128 з іх будуць павешаны і расстраляны, каля 12.000 адправяцца на сібірскую катаргу), калі Беларусь імкліва ператваралася ў лагер расійскай ваеншчыны. У той час маскоўскія славянафілы дружна падтрымалі расійскі царызм і публічна называлі «Мужыцкую праўду» «паскудным польскім лістком, поўным паклёпаў на Расію». Вось адкуль у радках Каліноўскага горкі сарказм і песімізм адносна расійска-беларускага брацтва. Вось адкуль параўнанне расійскіх чыноўнікаў, што спяшаліся ў «Северо-Западный край» «на ловлю счастья и чинов», з ненажэрнай саранчой, што глуміць усё на сваім шляху…*

*На вялікі жаль, і праз 155 гадоў пасля гераічнай смерці аўтара «Пісьмаў…» імперскія памкненні з боку Масквы ў дачыненні да Беларусі час ад часу праяўляюцца. Праўда, сёння яны хітра маскіруюцца словамі «паглыбленая інтэграцыя». Сяму-таму ў Крамлі незалежная Беларусь, як выглядае, не дае спакойна спаць. Такім «інтэгратарам» і даў адказ Кастусь Каліноўскі, наш нацыянальны герой №1, у «Пісьмах з-пад шыбеніцы». Зрэшты, і беларусам не зашкодзіць іх перачытаць, паўтарыўшы для сябе неўміручы паўстанцкі пароль: «Каго любіш? – Люблю Беларусь. – Так узаемна!».*

**Міхась СКОБЛА.**

# ПІСЬМЫ З-ПАД ШЫБЕНІЦЫ

І да нашага кутка даляцела ваша Газетка[1], і мы яе з увагай прачыталі; вельмі яна ўсім спадабалася, бо праўда напісана. Прымеце для таго нашу падзяку, а пісьмо аддрукуйце, каб знаў свет Божы, як мужыкі Беларусы глядзяць на маскалёў і паўстанне польскае, чаго яны хочуць і чаго па сваёй сіле дабівацsuccès будуць. Слова наша простае, но зато шчырае; калі яно дойдзе да ронду[2] польскага, адкрые яму нашу грудзь да і пакажа, што па-нашаму рабіці трэба, каб панаванню маскоўскаму не цяпер, то пазней канец ужэ палажыці.

Са ўсіх старон маскалі цяпер талкуюць нам без устанку а сваём брацтве з намі. Праўдзіва дзівота, жывучы пад рондам маскоўскім гэтулькі часу, цяпер ледзь мы аб гэтым пачулі, для таго не без карысці будзе паглянуць, як гэта маскоўскія браты самі ў сябе гаспадарылі да і з намі рабілі, каб пазнаць іх шчырасць і права на брацтва нашае.

Не будзем гаварыці, з якіх народаў маскалі паўсталі, брацтва там не многа найдзем, няволя манголаў да і цароў маскоўскіх саўсім забіла ў гэтам народзе ўсякую памяць а свабодзе да і зрабіла з яго грамады людзей паганых без мыслі, без праўды, без справядлівасці, без сумлення да і без баязні Боскай. З гэтакім народам цары маскоўскія, што то жывуць людскою крыўдаю, падбілі зямлю нашу пад сваё панаванне, тут то мы іх і пазналі, гэтых, як яны сябе называюць, братоў нашых.

Ронд польскі, правіўшы намі, не браў з нас рэкрута, не адрываў народу ад дзяцей, ад бацькоў да і ад зямлі роднай і не гнаў гдзесь у канец свету, каб завадзіць няволю, выціскаць слёзы і праклёнства на душы нашай. Ронд польскі калі браў з нас падымнае, то не заводзіў гэтакіх стаенных[3] падаткаў на душы нашы, што то да Бога адно належаць. Ронд польскі, маючы Бога ў сэрцы, не ўпісаў нас у схізму, у каторай адно за цара да за цара маліціся трэба, як бы ўжэ цар быў Богам на свеце, а вера да казны належала. Ронд польскі ўжо таму будзе 70 лет, выпераджаючы многа суседскіх народаў, пачаў ужэ талкаваці а свабодзе мужыцкай і роўнасці братняй[4] мужыка з шляхціцам, а генерал Касцюшка, што то, кажуць, каля Слоніма радзіўся і а каторым народ наш спявае, што ён вельмі быў добрым і маскаля крэпка біў, высказаўся ён за вольнасць нашу, но маскаль перашкодзіў і завёў свае ронды.

Пагляньма ж цяпер, што ён зараз пачаў рабіці, гэты дабрадзей мужыцкі, як сам цяпер кажа: найперш, каб не магло вырабляціся сумленне народнае, пакасаваў маскаль усе сходкі людзей выбарных, усе школы нашы, а так, ababраўшы з сумлення да і з розуму, а завёўшы ў нас свой парадак маскоўскі, пазволіў кожнаму дужшаму глуміцца над бедным як толькі хоча. Паноў саўсім увольніў ад усякіх ценжараў, даў ім права завадзіць паншчыну маскоўскую, а яна то не тры да не шэсць дзён з хаты, но 6 дзён з душы рабочай. Мужыку не толькі што не даў ніякага права, но яшчэ адабраў і тое права, якое ён меў ад ронду польскага; многа людзей вольных вялеў у паншчыну ўпісаць, кажнаму можна было мужыка крыўдзіць, а чыноўнікі маскоўскія не рабілі яму ніякай справядлівасці, но яшчэ калі суд на глум не ссылаў мужыка ў Сібір, то аддаваў на вечнасць у салдаты.

Калі які пан, паслухаўшы сумлення, ішоў за праўду і справядлівасць і супраціўляўся прыказу царскаму, каторы кажа «дзяры, бяры да і маўчы», тады яго, калі не ўцёк да пранцуза, у турму бралі да і ў Сібір гналі, а двор з людзьмі ў казну забіралі, стуль то ў нас і мужыкі казённыя. Пярвей яны служылі казне паншчыну, а после ў аброк іх упісалі, дай акром аброку ганялі без ніякай падзякі ўсялякаму чорту на работу: то акружному, то асэсару дай кожнаму, хто адно перакупіў. Начальства ось то якое маскоўскае для мужыкоў, а нібы дабрадзей!

Няхай той сам судзіць, хто пісьмо маё чытаці будзе, я адно скажу па шчырай праўдзе: што калі нам пад рондам польскім не саўсім было добра, то як маскаль стаў намі правіць, зрабіў ён для мужыкоў чыстае пекла на свеце. Тут сказаці яшчэ трэба, што ён змусіў нас пакідаці Бацькаўшчыну, ісці ў рэкруты, дай ваяваці не за прыказ Боскі, не за праўду і справядлівасць, но за глум, за няволю не раз процiў братоў да бацькоў нашых. Тут сказаці трэба, што маскаль, дабрадзей мужыцкі, зняўшы з паноў усялякія падаткі, зваліў іх адно на мужыцкае племя, аблажыў падаткамі і мужыцкую зямлю, і мужыцкія хаты, і мужыцкую душу, і мужыцкія дзеці, і мужыцкую скаціну, жывых і ўмершых.

Но не тут яшчэ канец маскоўскага дабрадзейства. З дзядоў і прадзедаў была ў нас уніяцкая вера, гэта значыць, што мы, будучы грэцкай веры, прызнавалі за намеснікаў Боскіх святых айцоў, што ў Рыме. Царом маскоўскім і гэта стала завідна, для таго, скасаваўшы ў Маскве грэцкую веру, а зрабіўшы царскую, што то называецца праваслаўе, і нас адарвалі ад праўдзівага Бога і ўпісалі ў схізму паганую. Такім спосабам, абабраўшы з гроша, з рук спасобных, запрагл нас у паншчыну, і каб слёзы мужыцкія не трапілі перад трон праўдзівага Бога, забралі нам і духоўную нашу пацеху – нашу веру ўніяцкую. Праўда, людцы, ёсць за што падзякаваці!..

А чыноўнікі то маскоўскія – яшчэ адно дабрадзейства. Чытаў я ў кніжках, што ёсць на свеце якась саранча, катора як гдзе пакажацца, усю худобу гаспадарскую зглуміць. Маем мы, браткі, горшую яшчэ ад той саранчы, а гэта чыноўнікі маскоўскія з сваёю «праўдаю» і «справядлівасцю», яны людзі вельмі здатныя, па-маскоўску «праворныя», умеюць так аблізаць чалавека, што з рук іх выйдзеш голенькі, як маці радзіла – і жыві пад гэтакім рондам без суда і праўды.

*(Заканчэнне на 6-й стар.)*

ПУЛЬС

## Аресты в Грузии

Тбилисский городской суд принял решение об административном аресте на срок от 5 до 13 суток десятерых задержанных 18 ноября участников акции у здания парламента. Один задержанный был оштрафован на 1 тысячу лари (около 335 долларов США). Всем им были предъявлены административные обвинения в невыполнении приказа полицейских и мелком хулиганстве.

Протестные акции в Тбилиси разгорелись после того, как 14 ноября парламент не смог внести изменения в Конституцию о проведении парламентских выборов в 2020 году по пропорциональной системе. В результате оппозиция обвинила в этом правящую партию «Грузинская мечта» и потребовала распустить парламент и назначить досрочные выборы.

## Дональд Туск избран председателем Европейской народной партии

Это крупнейшая фракция в Европарламенте. Туск был избран председателем партии по итогам первого дня работы 24-го избирательного конгресса ЕНП в Загребе. Конгресс собрал около 2 тысяч делегатов. В Загреб приехали в том числе канцлер Германии Ангела Меркель, уходящий председатель Еврокомиссии Жан-Клод Юнкер и избранный – Урсула фон дер Ляйен.

## Россияне за сменяемость партии власти

Большинство россиян, а именно 63%, считают, что в стране есть такой институт, как «партия власти», и только 24% не согласны с этим тезисом. Из тех, кто уверен в существовании такой партии, чуть более половины – 51% – выступают за ее сменяемость. Об этом говорится в итогах исследования, проведенного ВЦИОМ и Институтом развития парламентаризма «Прекрасная «Единая Россия» будущего». Исследование было представлено в преддверии съезда «Единой России», который пройдет 23 ноября, сообщает РБК.

## Белавежская пушча ў топе

Сусветнавядомы часопіс National Geographic склаў спіс з 25 выдатных мясцін, якія рэкамендуе абавязкова наведаць у 2020 годзе.

Трапіла ў спіс і Белавежская пушча. Выданне прапануе сваім чытачам адкрыць для сябе адну з апошніх сапраўды дзікіх мясцін у Еўропе і рэкамендуе наведаць пушчу ў верасні-кастрычніку. Праўда, асноўны акцэнт National Geographic робіць на польскай частцы Белавежскай пушчы. Паведамляецца, што жадаючыя могуць адправіцца з Варшавы на чатырохдзённае сафары на зубра ў «дзікую Польшчу».

БЕЗ СРОКА ДАВНОСТИ

# К 14 годам лишения свободы приговорен бывший командир Вильнюсского гарнизона Советской Армии Владимир Усхопчик

*Дело о трагических событиях 13 января 1991 года в Вильнюсе, объем которого очень велик, планируется передать в Апелляционный суд Литвы (АСЛ) до конца этого года.*

«Планируется, что это будет в нынешнем году, ближе к концу года», – сказала BNS представитель рассматривавшего дело Вильнюсского окружного суда (ВОС) Лина Немейкайте.

По ее словам, сейчас завершается перевод приговора на русский язык. Потом с ним смогут ознакомиться осужденные, которые участвовали в процессе. После они в течение 20 дней смогут подать апелляционные жалобы.

На рассмотрении дела присутствовали всего два обвиняемых – советский офицер **Юрий Мель**, который находится под арестом, и проживающий в Вильнюсе и находящийся на свободе бывший офицер **Геннадий Иванов**. Других лиц судили заочно, потому что Россия и Беларусь отказываются их выдать.

Ранее сообщалось, что по делу поступило уже 58 апелляционных жалоб. ВОС в марте вынес приговор 67 лицам, проживающим в России, Украине, Беларуси. Они приговорены к лишению свободы на сроки от 4 до 14 лет, так как признаны виновными в военных преступлениях и преступлениях против человечности.

Среди осужденных экс-министр обороны СССР **Дмитрий Язов**, который приговорен к десяти годам лишения свободы. К 14 годам лишения свободы приговорен и бывший командир Вильнюсского гарнизона Советской Армии **Владимир Усхопчик**, бывший офицер КГБ **Михаил Головатов** получил 12 лет лишения свободы.

С приговором не согласны ни прокуратура, ни адвокаты. Прокуратура утверждала, что она просит немного ужесточить наказания.

По мнению адвокатов, было бы неплохо, чтобы дело пересмотрел и суд второй инстанции. Есть мнение, что военные только выполняли приказы и их действия должен оценивать военный трибунал.

Пострадавшими в этом деле признаны почти 700 человек, в качестве свидетелей опрошены около тысячи человек.

(«Литовский курьер».)

ПРЯМАЯ РЕЧЬ

# Владимир УСХОПЧИК: «Моей вины нет…»

*«Народная Воля» взяла интервью у генерал-лейтенанта Владимира Усхопчика, приговоренного заочно к 14 годам лишения свободы, и который сейчас проживает в Минске.*

- **Чувствуется, вы в курсе последних новостей… Переживаете, что попали в такую историю?**

– Конечно, я все эти годы отслеживаю новости по этой теме. А как воспринимаю… Если бы все эти обвинения действительно меня касались, я, конечно, переживал бы. А так я спокоен, потому что ко мне это никакого отношения не имеет.

Я не совершал преступлений!

**– Адвокаты считают, что дело должен рассмотреть военный трибунал.**

– Да. Дело действительно нужно пересмотреть и закрыть. Потому что никакого правосудия в этом деле нет. Одна сплошная политика.

По логике литовцев получается, что нужно тогда отдавать под суд и всю сороковую армию, которая была в Афганистане, американцев, которые были в Ираке, Сирии…

**– Как вы отреагировали на громкий заочный приговор?**

– У меня вопрос: почему мне дали 14 лет, а Дмитрию Язову – 10? Я ведь не самый старший воинский начальник в Вооруженных Силах был, я был командир дивизии. Я всего лишь командовал дивизией. А Язов – министр, он принимал решения. И ему 10 лет, а мне 14!

В принципе, я догадываюсь, почему так произошло. Еще задолго до 1991 года литовцы на зуб пробовали, что такое Вооруженные Силы Советского Союза, действовали нагло, устраивали провокации в отношении офицеров и их семей, которые несли службу в Вильнюсе. Будучи командиром дивизии, я всячески этому препятствовал. И, кстати, Витаутас Ландсбергис, который тогда возглавлял Верховный Совет Литовской Республики, прекрасно об этом знает. Он является одним из идеологов, к нему прислушиваются, может, дал показания, чтобы мне больше дали…

**– Владимир Никитович, а вы в странах Евросоюза бываете?**

– Нет. Это дело политическое, я прекрасно понимаю, что может быть всякое… Некоторые мои друзья и бывшие подчиненные живут в Вильнюсе. Мы общаемся, но аккуратно…

**– Но вы не в розыске?**

– Нет. Я раньше ездил в Евросоюз, а сейчас стараюсь даже в Украину не ездить, потому что мало ли что... Там тоже два человека были, которые проходили по этому делу, если не ошибаюсь, их задержали. В последнее время бывал в России.

Но что переживать… Что было, то было! Как говорится, время выбрало нас… Это история уже. Но моей вины в том, что случилось, нет. Есть просто большая политика…

**Марина КОКТЫШ.**

